**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№21(685)**
**23 траўня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





**Фотасесія на глыбоцкім стадыёне.** *Фота Кастуся Бахіра.*



## 18 мая ў Беларусі быў пабіты тэмпературны рэкорд дня 34-гадовай даўніны

**Паводле звестак рэсурсу meteoinfo.by, у Віцебску паветра прагрэлася да 32,5 градуса вышэй за нуль. Гэта на 1,4 градуса больш за ранейшы максімум, зафіксаваны ў 1979 годзе ў Васілевічах (Гомельская вобласць).**

У самім Віцебску рэкорд гэтага дня складаў плюс 28,8 градуса (зарэгістраваны ў 1938 годзе). Сярод абласных цэнтраў абнавіліся максімумы ў Гомелі (+30,6 супраць 29,9 у 2007 годзе) і Магілёве (+29,3 супраць 29 у 1979 годзе).

***Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.***

## МНС інфармуе

**на 21.05.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 471;
Гібель людзей – 68, з іх 1 дзіця;
Урон – 2325,5 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 25;
Гібель людзей – 4, з іх дзяцей няма;
Урон – 118.2 руб.

## 30 чэрвеня пасольства Францыі ў Беларусі спыняе выдачу віз у Іспанію

**30 чэрвеня 2013 года пасольства Францыі ў Беларусі спыняе выдачу віз у Іспанію. У сувязі з гэтым з 30 мая пасольства адмяняе рэгістрацыю на падачу дакументаў для паездак у Іспанію.**

Як вынікае з паведамлення, размешчанага на сайце французскай дыпмісіі ў Мінску, гэта робіцца ў сувязі са спыненнем дзеяння пагаднення па дэлегіраванні правоў пасольству Францыі ў Рэспубліцы Беларусь на выдачу віз у Іспанію. Паведамляецца таксама, што найбліжэйшым часам у Мінску адкрыецца Іспанскі візавы цэнтр, працу якога будзе каардынаваць пасольства Іспаніі ў Маскве. Цэнтр адкрыецца па адрасе: вул. Інтэрнацыянальная, 11.

***БелаПАН.***



## 3 наступных выхадных цягнік Мінск-Вільня будзе хадзіць тры-чатыры разы на дзень

**Колькасць цягнікоў на маршруце Мінск-Вільня вырасце з 26 мая. Гэта адбылося дзякуючы таму, што Літоўская чыгунка набыла тры сучасныя польскія дызелі.**

Зручна і тое, што у дарогa скароціцца да 2,5 гадзіны. Літоўскія памежнікі будуць правяраць пасажыраў на вакзале, а беларускія – падчас руху, паміж Гудагаем і Маладзечнам.

Расклад руху цягнікоў пакуль часовы, будзе дзейнічаць да 27 чэрвеня. Пасля ў ім магчымыя змены.

З Мінска цягнікі будуць адпраўляцца а 07.40, 10.18, 18.50 у будні і а 07.40, 08.45, 10.18, 18.50 у выходныя. З Вільні – а 06.55, 14.58 і 18.14 у будні і а 06.55, 14.58, 18.14, 20.54 у выходныя.

Кабпрыцягнуць пасажыраў, у Вільні на вакзале ўводзяць бясплатны вайфай і адкрываюць д'юці-фры.



## Увага – узрост!

**У мэтах павышэння ўзроўня бяспекі пажылых грамадзян у перыяд з 20 па 24 траўня 2013 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзяцца адмысловыя комплексныя мерапрыемства «Увага - узрост!».**

У мэтах стабілізацыі аператыўнага становішча, папярэджання злачынстваў і правапарушэнняў у стаўленні пажылых грамадзян. Асаблівая ўвага будзе нададзена прафілактыцы злачынстваў у адносінах адзінокіх і грамадзян, якія адзінока пражываюць.

***А.І. Гігола,***
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

Верхнядзвінскі раён

# У садружнасці з партнёрамі

■ Чэслаў Якубовіч

**У мінулым засталіся часы татальнага дэфіцыту і зараз у крамах нават у глыбінцы можна многае купіць, настолькі вырас асартымент тавараў.**

Аднак знакамітыя італьянскія сыры «Мацарэлла» да нядаўняга часу можна было адшукаць хіба што ў сталічных гіпермаркетах. Са стварэннем у Верхнядзвінску сумеснага расійска-беларускага прадпрыемства "Верхні луг" іх можна купіць ужо і ў райцэнтры, у магазінах абласнога цэнтра. Справа ў тым, што пасля запуску тут сучаснага мясцовага сырзавода засталіся свабоднымі старыя вытворчыя плошчы прадпрыемства. На іх паклала вока буйная маскоўская фірма "Краун Трэйдзінг", якая рэалізуе беларускія сыры на расійскіх прасторах. Яна ўклала больш 3 млн. еўра ў рэканструкцыю памяшкання, на набыццё сучаснага заходняга абсталявання. Яго аналагаў сёння няма болей у Беларусі, бо экалагічна чыстыя сыры вырабляюць поўнасцю ў аўтаматызаваным і закрытым рэжыме. Аднак мясцовых сыраробаў-тэхналогаў на працягу паўмесяца навучалі ўсім тонкасцям тэхналогіі спецыялісты з Італіі. На старым-новым заводзе ў райцэнтры сталі атрымоўваць з пастэрызаванага малака некалькі гатункаў сыроў "Мацарэлла" у выглядзе мяккіх шарыкаў, паўцвёрдых форм і натуральных вэнджаных у вакуумнай упакоўцы. На чарзе тут выпуск новых сыроў для піцы і для сеткі піцэрый. Для беларускага сырзавода новы партнёр таксама карысны, бо забірае на перапрацоўку яго адходы пахты на выпуск тавару з нізкай тлустасцю і па-ранейшаму гандлюе прадукцыяй пад маркай "Ян Сыроб".

Полацкі раён

# Адпачыць і паправіць здароўе

■ Кастусь Александровіч

**У гэтым годзе ў адным з самых маладых гарадоў краіны, цяпер ужо стотысячным Наваполацку, багата розных прыемных падзей і наваселляў.** Услед за абнаўленнем кінатэатра "Мінск" на паказ фільмаў у фармаце 3 D тут адрамантавалі басейн у СШ №4. У нафтаградзе справіў наваселле цэнтр дзённага знаходжання інвалідаў, адкрыўся новы сучасны радзільны дом на 120 месц. Днямі дайшла чарга і для аматараў гарачага парку, бо пасля працяглага рамонту і рэканструкцыі запрацавала зноў любімая многімі гараджанамі лазня №1. Ужо за першы тыдзень працы яе наведалі каля тысячы навапалачан і жыхароў нават суседняга Полацка і засталіся задаволенымі. У гэтым аздараўленчым цэнтры цяпер працуюць два мыйныя аддзяленні на 50 месц у кожным. Апроч абавязковых парылак ёсць і два пакоі адпачынку і столькі ж невялічкіх басейнаў, каб асвяжыць цела пасля тэмпературнай нагрузкі. Для людзей стварылі максімум камфорту, а за адзін сеанс лазні трэба заплаціць 24,5 тысячы рублёў. Кожнаму наведвальніку даецца змены абутак, каб было чыста і ўтульна. Спецыяльны кіёск прапануе прама на месцы набыць увесь неабходны атрыбут для мыцця і нават свежыя венікі. Дарэчы, на гэтым аб'екце здароўя работы па яго рэканструкцыі прадоўжацца. Для наведвальнікаў яшчэ здадуць дзве сауны з масажным кабінетам. Папраівіць сваю фізічную форму дапаможа і абноўлены фітнэс-цэнтр, а адпачыць можна будзе і ў більярднай. У гэтым горадзе трэць насельніцтва – моладзь і для іх найперш пабудавалі ў мікрараёне Баравуха сучасную лыжаролерную трасу.

Дубровенскі раён

# У чаканні аднаўлення

■ Станіслаў Раманчук

**Пасля завяршэння сёлета работ па стварэнню гісторыка-краязнаўчага музея ў Верхнядзвінску, адзіным у вобласці райцэнтрам, які не мае такой установы, засталося Дуброўна.**

Праўда, тут была створана і плённа працавала рабочая падрыхтоўчая група будучага музея. Мясцовыя грамадскія актывісты і краязнаўцы сабралі ўжо больш 13 тысяч розных матэрыялаў і артэфактаў па гісторыі роднага краю. Цяпер яны спадзяюцца, што справы па стварэнню цэнтра культуры і асветы пойдуць шпарчэй. Для гэтага музея даўно падабралі месца знаходжання ў былым каталіцкім кляштары бернардзінцаў на беразе ракі, пабудаваным яшчэ ў пачатку XVII стагоддзя. За савецкім часам у гады ваяўнічага атэізму ў закрытым духоўным цэнтры што толькі не размяшчалі, ад звыклых складоў да школы з кінатэатрам. Аднак вернікам кляштар не вярнулі, перадалі 18 гадоў назад яго на баланс аддзела культуры райвыканкама. Каталікі, праўда, з дапамогай мясцовых улад, у райцэнтры ўзвялі свой новы храм, які сёлета неўзабаве будзе асвечаны. Магчыма, гэта падзея паспрыяе і будучаму музею, у якім рэстаўрацыю спынілі ў 2007 годзе. Праўда, падрыхтавана неабходная праектна-каштарысная дакументацыя, на гэты аб'ект у бюджэце выдзелілі каля 3 млрд. рублёў. На першым этапе ў будынак, адметны сваёй архітэктурай ва ўсім горадзе, падвядуць цяпло і іншыя камунікацыі, заменяць шыбы, капітальна заменяць дах. Дарэчы, памяшканняў у кляштары-музеі хопіць і для музейных экспазіцый, і для размяшчэння карціннай галерэі з раённым загсам.

Надвор'е ў Глыбокім — www. rp5ru

| Мясцовы час | Чацвер 23.05.13 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | Пятніца 24.05.13 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | Субота 25.05.13 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | Нядзеля 26.05.13 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | Пнд.27.05.13 03:00 | 09:00 | 15:00 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература | +11 | +13 | +17 | +15 | +10 | +15 | +21 | +17 | +14 | +16 | +17 | +14 | +9 | +13 | +19 | +15 | +11 | +16 | +22 |
| Ціск | 739 | 738 | 738 | 739 | 739 | 739 | 737 | 736 | 734 | 733 | 735 | 739 | 741 | 743 | 745 | 745 | 746 | 747 | 747 |
| Вільготнасць | 65 | 92 | 67 | 64 | 94 | 81 | 55 | 76 | 96 | 97 | 82 | 70 | 79 | 68 | 46 | 76 | 82 | 71 | 50 |
| Вецер м/сек | 1 Пд | 1 Пд | 4 Пд-З | 1 Пн | 1 У | 4 У | 6 Пн-У | 6 Пн-У | 4 Пн-У | 2 У | 9 Пд-З | 7 Пд-З | 6 Пд-З | 6 Пд-З | 5 З | 1 Пн | 2 У | 4 У | 4 У |

# Аб самым надзённым

## АНАМАЛЬНА ДОЎГАЯ ЗІМА І ПОТЫМ МОЦНАЕ РАЗВОДДЗЕ СЁЛЕТА Ў БЕЛАРУСІ МОГУЦЬ ЗНІЗІЦЬ УРАДЖАЙ ЗБОЖЖА АД 15 ДА 18 %



■ Аляксандр Цішкевіч

**Са спазненнем больш чым на паўмесяца стартавала веснавая сяўба, і правесці яе паспяхова ў фарсіраваным рэжыме, як ні стараліся, не атрымалася. Паўднёвыя рэгіёны Беларусі проста заліло моцнымі талымі водамі, а на Віцебшчыне, у паўночным рэгіёне краіны заўжды сяўба праходзіла пазней астатніх абласцей.**

У гэтым годзе розныя непрыемнасці ўсё часцей сталі пераследаваць беларусаў. Вось і напрыканцы красавіка пайшлі трывожныя чуткі наконт таго, што стала прычынай масавага падзяжу свіней (называлася нават лічба каля 20 тысяч галоў) на буйным свінакомплексе "Усходні" паблізу Баранавіч. У нашай закрытай краіне пачуць рэальную лічбу гібелі пятачкоў і затым яшчэ і масавага забою свіней з-за нейкай інфекцыйнай хваробы проста немагчыма, паколькі праўдзівая непажаданая інфармацыя ўсяляк дазіруецца.

А вось у эпіцэнтры падзей мясцовае насельніцтва моцна хвалявалася, бо дэпартамент ветнагляду Мінсельгасхарча Беларусі не назваў прычыну і назву хвароб жывёлін, а свае матэрыялы праверкі, што гэта не была афрыканская чума свіней, накіраваў калегам у Расію для дадатковага аналізу. У вёсках паблізу мясцовыя жыхары сталі масава забіваць сваіх свіней, апасаючыся горшых непрыемнасцей. Ды і міліцэйская ахова вакол свінакомплекса доўга не здымалася. Аднак яшчэ больш праблем айчынным аграрыям даставілі сёлетнія прыродныя катаклізмы.

Са спазненнем больш чым на паўмесяца стартавала веснавая сяўба, і правесці яе паспяхова ў фарсіраваным рэжыме, як ні стараліся, не атрымалася. Паўднёвыя рэгіёны Беларусі проста заліло моцнымі талымі водамі, а на Віцебшчыне, у паўночным рэгіёне краіны заўжды сяўба праходзіла пазней астатніх абласцей. Вось чаму спецыялісты еўрапейскага рынку зерня прагназуюць нам валавы недабор збожжа 15-18 %. Праўда, такія страты ўраджаю ў Беларусі, па іх ацэнках, могуць быць меншыя, калі на палетках летам будзе спрыяльнае надвор'е.

Хоць урадавыя чыноўнікі запэўнівалі паспець адсеяцца ў пачатку мая, але гэтага не атрымалася. Па дадзеных, напрыклад, на раніцу 6 мая на беларускіх палях пасеялі толькі 53,9 % ад запланаванага, хоць тэмпы работ, сапраўды, былі вышэй мінулагодніх. Аднак у нашым рэгіёне, у Віцебскай вобласці ў дадатак прыйшлося перасяваць яшчэ загінуўшы азімы рапс на пятай частцы плошчаў і каля 10 % іншых загінуўшых зімой пасеяных азімых культур.

Па прычыне таго, што ў гэтым годзе вялікі снежны пакроў паўсюдна знік значна пазней звычайнага, у Беларусі проста не паспявалі ўзорваць і рыхтаваць зямлю пад сяўбу. Такія работы нават на цёплай Брэстчыне правялі ў пачатку мая толькі на 62,7 % плошчаў. Такі ж паказчык назіраўся ў цэлым і па краіне, а аптымальныя агратэхнічныя тэрміны пасадкі той жа бульбы заканчваліся 9 мая. Шмат дзе беларускія гаспадаркі проста спазняліся не толькі з апрацоўкай участкаў пад сяўбу, але і з пасадкай бульбы, сяўбой лёну. Пад кукурузу ў Беларусі сёлета адвялі нават 864 тысячы гектараў і , відавочна, што і сяўба гэтай культуры зацягнецца, што можа адбіцца на лёсе вырашчанага ўраджаю.

І толькі вышэйшае кіраўніцтва краіны па-ранейшаму захоўвае аптымізм і ўпэўнена глядзіць у будучае, паколькі наша краіна бачыцца стала адным з асноўных экспарцёраў харчавання ў свеце, пра што было сказана беларускім лідарам падчас наведвання аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта. Магчыма, гэта і так, але беларускія прадукты харчавання дарагія для суайчыннікаў. З іншага боку цяпер узяты курс на далейшую рэканструкцыю малочна-таварных ферм і птушкафабрык і давядуць да ладу гігант сваёй галіны Аршанскі льнокамбінат.

Вось толькі эканамічная сітуацыя ў большасці нашых калгасаў па-ранейшаму складаная, прадуктыўнасць статку нізкая, з цяжкасцю выплочваюцца заробкі. Апошнім часам нават у саюзнай дзяржаве інтэграцыйныя дамоўленасці проста буксуюць. Адкрыта гавораць аб "бандыцкіх акцыях" з нашым МАЗам, такіх жа пустых схемах аб'яднання з "Гомсельмашам". А вось мала хто ведае, што сёлета аб'ём прадаж беларускай сельскагаспадарчай тэхнікі на асноўны і амаль адзіны рынак збыту ў Расію скараціўся на 15 %. Між тым, на фоне вясковых праблем і рост ВУП Беларусі сёлета нізкі, і ў прамысловасці кожнае чацвёртае прадпрыемства яшчэ не пачынала ў сябе мадэрнізацыю.

## Дзень за днём

**Беларусь атрымала 5 транш крэдыта антыкрызіснага фонда ЕўрАзЭС у памеры 440 млн. долараў. Сітуацыя ў айчыннай эканоміцы ўшчыльную наблізілася да прычын узнікнення вострага крызісу ў 2011 годзе. Чвэрць айчынных заводаў і фабрык яшчэ не пачалі праводзіць сваю мадэрнізацыю. Адмоўнае сальда знешняга гандлю РБ ў 1-м квартале сёлета дасягнула 564 млн. USD, асноўныя рынкі збыту нашых тавараў "правісаюць". Дзяржаўны доўг краіны вясной вырас яшчэ на 2,3 % і дасягнуў амаль 132 трлн. рублёў. Кошт кв. метра новага жылля ў беларускай сталіцы павялічыўся ўжо да 1367 долараў. Колькасць баброў у нас дасягнула 75 тысяч, што ў 2 разы болей дапушчальнай нормы.**

## Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Еўрапейскі Цэнтрабанк выпусціў новую грашовую купюру вартасцю 5 еўра з палепшанай абаронай грошай ад падробак, старыя банкноты будуць паступова выходзіць з ужытку.

**ЗША.** Генсек ААН Пан Гі Мун выказаў глыбокую заклапочанасць, што летась у свеце забілі 120 журналістаў пры выкананні іх абавязкаў, штодзень ім пагражаюць расправай.

**Літва.** Знешнепалітычным прыярытэтам краіны, як заявіў глава МЗС Лінас Лінкявічус, застанецца Беларусь, мы верым, што яна выбера далейшы еўрапейскі шлях развіцця.

**Швейцарыя.** Спецдакладчык Савета ААН па правах чалавека Міклаш Харашці рэкамендаваў уладам Беларусі неадкладна і без ўсялякіх умоў вызваліць палітзняволеных.

**Сірыя.** Вядомы юрыст камісіі ААН па расследванню падзей у Сірыі Карла дэль Понта заявіла, што хімічную зброю зарын маглі ўжыць сірыйскія паўстанцы, а не армія Асада.

**Пакістан.** Вярхоўны суд штата Пешавар пажыццёва забараніў экс-лідару краіны Первесу Мушарафу выбірацца прэзідэнтам за арышты, затрыманні суддзяў.

**Лівія.** За злачынствы супраць чалавечнасці тут сталі судзіць сына былога дыктатара М. Кадафі Сейфа аль –Іслама, які лічыўся яго найбольш верагодным пераемнікам на ўладу.

**Венесуэла.** На фоне растучых эканамічных цяжкасцяў новы прэзідэнт Н. Мадура зноў абвінаваціў экс-кіраўніцтва Калумбіі ў планаванні быццам бы свайго забойства.

**Самалі.** У выніку моцнай засухі і страшнага голаду ў краіне, ахопленай грамадзянскай вайной, загінула амаль 260 тысяч чалавек, з якіх – палова дзеці ва ўзросце да 5 гадоў.

**Сербія.** Днём на ўскрайку сталіцы Белграда сутыкнуліся ў тунелі два пасажырскія цягнікі, калі адзін з іх спыніўся па паломцы, у бальніцу трапілі 22 параненыя пасажыры.

**Кітай.** З пачатку года зламыснікі прадалі ўжо 20 тысяч тон няякаснага мяса, нават бараніны з пацукоў, паліцыя арыштавала 904 дзялкоў, раскрыла 328 фактаў махінацый.

**Кыргыстан.** Недалёка ад граніцы з Казахстанам разбіўся з-за тэхнічнай няспраўнасці амерыканскі самалёт-палівазапраўшчык Boeing C-130, ён згарэў на месцы падзення.

**Ірландыя.** Праз 3 месяцы 34-гадовая жыхарка горада Гленмор зноў нарадзіла другую па ліку дзяўчынку-блізнятку, першая з'явілася неданошанай, але хутка потым паправілася.

**Францыя.** У праграму 66-га Міжнароднага кінафестываля ў Каннах уключылі адразу 3 дакументальныя стужкі і 2 мультфільмы вытворчасці кінастудыі "Беларусьфільм".

**Грузія.** На надзвычайнай сесіі НАК краіны прагаласаваў за ўдзел грузінскіх спартсменаў на зімовай Алімпіядзе-2014 у Сочы, Грузія не мае нават дыпламатычных адносін з РФ.

## Мінэканомікі знізіла цэны на газ для юрасоб і ІП, якія займаюцца вырошчваннем агародніны ў цяпліцах



■ Марына Носава, БелаПАН.

**Мінэканомікі Беларусі знізіла мяжавыя максімальныя цэны на прыродны газ, дыферэнцыраваныя ў залежнасці ад аб'ёму спажывання юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі. Як паведаміла прэс-служба міністэрства, такое рашэнне ўтрымліваецца ў пастанове ведамства № 24 ад 12 красавіка 2013 года.**

Тарыфы зніжаны на 11,2%.

Таксама гэтай пастановай прадугледжана дыферэнцыяцыя тарыфаў для юрыдычных асоб, у дачыненні да якіх устанаўліваецца цана на ўзроўні насельніцтва (за 1 куб. м), у залежнасці ад наяўнасці газавага ацяплялнага абсталявання.

«Гэта рашэнне скіравана на стварэнне роўных умоў гаспадарання і ўстанаўленне аднолькавых падыходаў да прымянення цэн на прыродны газ. Прынятыя Міністэрствам эканомікі рашэнні не прывядуць да змянення цэн на прыродны газ для насельніцтва», — гаворыцца ў каментары Мінэканомікі.

Пастанова набыла моц пасля яе афіцыйнага апублікавання на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале 16 мая.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Гомель.** Дырэкцыя канкурэнта "Гомсельмаша" расійскага "Растсельмаша" не пагадзілася з прапановамі аб аб'яднанні з беларусамі і заявіла, што іх узровень вытворчасці вышэйшы.

**Мінск.** У адкрытым 11-павярховым "Прэзідэнт-гатэлі" 5 зорак беларус за год працы са сваёй заработнай платай зможа пражыць у апартаментах 2,5 сутак, у ім 3 рэстараны, басейн, кангрэс-хол на 600 месц.

**Баранавічы.** Дырэкцыя буйнога свінакомплекса "Усходні" з пагалоўем 80 тысяч свіней прызнала факт іх масавага мору з прычыны распіраторна-рэпрадукцыйных інфекцый.

**Мінск.** Да канца года ў сталіцы здадуць першых 5 арэндных дамоў, у наступным іх будзе пабудавана ўжо 10, размеркавалі жадаючым мінчанам займецъ 200 арэндных кватэр.

**Лельчыцы.** Праверка Дзяржкантролю выявіла шматлікія факты паставак райпо 4,5 тон мясных паўфабрыкатаў школам раёна з пратэрмінаваным тэрмінам годнасці да 5 сутак.

**Мінск.** У сталіцы адкрыўся першы ў краіне пункт збору адходаў адслужыўшай бытавой тэхнікі, за старымі халадзільнікамі, тэлевізарамі хутка будуць ездзіць на дом.

**Гродна.** Тут пахавалі адзіную ў сям'і 23-гадовую дачку-дызайнера, якая памерла пасля пластычнай аперацыі носа ў адным з медцэнтраў Мінска з-за халатнасці ўрачоў.

**Мінск.** Пасля трагічнай гібелі пацыенткі А. Лукашэнка загадаў пакараць вінаватых, а сам медцэнтр "Экамедсэрвіс" перадаць пад кантроль і кіраванне Міністэрства аховы здароўя.

**Брэст.** На 17 тысяч долараў падманулі мясцовае казіно яго адміністратар, круп'е і двое ігракоў мечанымі ультрафіялетам калодамі карт, траіх з іх арыштавалі за махлярства.

**Мінск.** Намеснік старшыні АБФФ Сяргей Сафар'ян пацвердзіў, што ў Беларусі ў бліжэйшы час пачнуць узводзіць 5-6 крытых футбольных манежаў у абласных цэнтрах.

**Лагойск.** У вёсцы Зялёны Сад каля 1 гадзіны ночы поўнасцю згарэў дрэваапрацоўчы цэх з піламатэрыяламі, па ацэнках экспертаў, прычынай пажараў стаў яго наўмысны падпал.

**Мінск.** Урад РБ праігнараваў просьбы грамадскасці і не ўключыў Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў спіс 195 арганізацый з льготамі па аплаце арэнднай платы.

**Мядзел.** У вёсцы Студзеніца 19-гадовая маці выратавала ад гібелі гадавалага сына, ўзнік пажар ад электраправодкі, у райцэнтры абгарэў мужчына, ратуючы суседа на пажары.

**Столін.** Днём на дарозе п'яны 44-гадовы праваслаўны святар на аўто ўрэзаўся ў прычэп трактара і разам з пасажырам трапіў у бальніцу, 3 гады назад гэтага святара пазбавілі вадзіцельскіх правоў.

**Мінск.** Хакейны клуб "Дынама" пакінулі 5 моцных легіянераў, у асабленым складзе каманда ў новым сезоне КХЛ можа стаць яўным аўтсайдарам без лепшых сваіх хакеістаў.

## Продаж квіткоў на «Славянскі кірмаш у Віцебску» пачнецца з 27 траўня

■ TUT.BY

**Праз 10 дзён, з 27 траўня, пачнецца продаж квіткоў на мерапрыемствы XXII Міжнароднага фэсту мастацтваў «Славянскі кірмаш у Віцебску».**

Па традыцыі ў першую чаргу будуць рэалізоўвацца квіткі на канцэрты ў Летнім амфітэатры. З 3 чэрвеня іх можна будзе набыць і на іншыя праекты фэсту.

Як паведамляе афіцыйны сайт фэсту, тэрміны правядзення цяперашняга форума мастацтваў змяніліся: ён пройдзе з 11 па 15 ліпеня. Да гэтага планавалася, што з 11 па 17 ліпеня. Прагрма фэставых мерапрыемстваў скарацілася, але, як сведчаць арганізатары, «гэта не адаб'еццa на яе напаўненні».

Дырэкцыя «Славянскага кірмаша» раіць набываць квіткі ў фэставых касах і білетных кіёсках у Віцебску. Таксама можна будзе купіць электронныя квіткі на сайтах:www.ticketpro.by і www.kvitki.by. Акрамя таго, ёсць магчымасць набыць іх за безнаяўны разлік у Цэнтры культуры «Віцебск

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Па праграме аптымізацыі дзяржаўных СМІ з 1 ліпеня 2013 года замест двух абласных газет "Народнае слова" і «Віцебскі рабочы" будзе адна новая "Витебские вести".

**Наваполацк.** На мясцовым заводзе "Наваполацкжалезабетон" асвоілі ў маі вытворчасць вентыляцыйных блокаў услед за апорамі для ліній электраперадач, якія на цяперашні час даволі запатрабаваныя ў Расіі.

**Орша.** Авіярамонтны завод завяршыў рэканструкцыю свайго інтэрната №1 і стварыў новы цэх для работ па поўнай мадэрнізацыі 16 паступіўшых сюды па заказах верталётаў.

**Глыбокае.** Мясцовы вопытны лясгас перадаў большую частку саджанцаў для вішнёвага саду, які заклалі на ўездзе ў горад з боку Полацка, у гэтым садзе будуць вішні з многіх краін свету.

**Полацк.** Моцна абурыла жыхароў вёскі Шпакоўшчына і яшчэ 10 суседніх паселішчаў закрыццё ў іх пошты, да бліжэйшага аддзялення сувязі адсюль 10 км, цяжка дабрацца.

**Бягомль.** Трэці год запар на абласную Дошку гонару занеслі імя мясцовага завода "Ветразь" за нарошчванне вытворчасці, асваенне новых відаў выпускаемай прадукцыі.

**Паставы.** Раён стаў лепшым у вобласці па ўкараненню сучасных тэхналогій перадачы дадзеных з 32 станцый, высокахуткасным інтэрнэтам карыстаюцца ўжо 6250 сем'яў.

**Браслаў.** Пры падходзе да дзяржаўнай граніцы ў вёсцы Плюсы пагранічнікі затрымалі групу грузін, пазней пры спробе прайсці нелегальна ў Літву затрымалі дваіх армян.

**Віцебск.** У другі раз у абласным цэнтры ад звычайнага люстэрка адбыўся пажар у доме, прамяні яркага сонца прапалілі плед у пакоі і агонь распаўсюдзіўся па ўсёй кватэры.

**Дуброўна.** З моцнымі апёкамі трэцяй часткі цела трапіў у рэанімацыю райбальніцы 30-гадовы жыхар вёскі Рэдзькі, ён на падпітку вырашыў замяніць газавы балон, які выбухнуў.

**Віцебск.** Студэнтка тэхналагічнага ўніверсітэта Ганна Мельнічук стала пераможцам конкурсу на лепшы дызайн уваходнага білета ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі.

**Шуміліна.** Расійская фірма за 295 мільёнаў рублёў купіла ў вёсцы Полцева некалькі будынкаў старой панскай сядзібы для стварэння агратурыстычнага комплекса, развядзення коней.

**Глыбокае.** У райцэнтры з-за неасцярожнасці пры курэнні адбыўся пажар у прыватным доме, які забраў жыццё чалавека, у той дзень на Віцебшчыне ў агні загінулі яшчэ трое.

**Наваполацк.** У доме на цэнтральнай вуліцы аварыйная бетонная пліта з казырка пад'езда ўпала на лаўку пад ім, добра, што людзей у гэты момант на месцы здарэння не было і ў выніку ніхто не пацярпеў.

**Віцебск.** На ўрачыстасцях у СШ №8 яе піянерскай дружыне прысвоілі імя выпускніка школы, капітана 1-га ранга А. Іспенкава, ён, як герой, загінуў на падлодцы "Камсамолец".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ **А.І. Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

# Наперадзе – лета. Не жартуйце з вадой!

З усталяваннем цёплага надвор'я жыхары і госці нашага горада ў вольны час выязджаюць за горад, каб адпачыць, аднавіць сілы на ўлонні прыроды. Часцяком, знаходзячыся на адпачынку, яны забываюць пра меры бяспекі на вадзе, што прыводзіць да трагічных наступстваў, разводзяць вогнішчы ў пажаранебяспечных месцах, займаюцца незаконнай парубкай лесу і лоўляй рыбы, што ператварае іх у правапарушальнікаў.

На тэрыторыі Глыбоцкага раёна маюцца месцы адпачынку з масавым знаходжаннем грамадзян, на якіх у выхадныя дні збіраюцца дзясяткі, а то і сотні нашых грамадзян: гэта азёры Бяглец, Мушкат, Кагальнае, Белае, Алойзберг і інш. Акрамя таго, да месцаў масавага адпачынку грамадзян адносяцца паркі, скверы, клубы, дыскатэкі і іншыя аб'екты з масавым знаходжаннем грамадзян для правядзення вольнага часу. У мэтах забеспячэння аховы грамадскага парадку аддзелам унутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама вылучаны нарады міліцыі, каб ніхто не перашкодзіў адпачынку людзей. Наяўнасць міліцыі ў месцах масавага адпачынку грамадзян робіць адпачывальнікаў больш дысцыплінаванымі, што памяншае рызыку няшчасных выпадкаў. Прынятыя кіраўніцтвам РАУС меры па забеспячэнні аховы грамадскага парадку ў месцах масавага адпачынку грамадзян накіраваныя на зніжэнне рызыкі няшчасных выпадкаў, здзяйсненне ў адносінах адпачывальнікаў рознага роду правапарушэнняў.

У гэтай сувязі хацелася б растлумачыць наступнае: зоны адпачынку, лясныя масівы, лужкі, берагі рэк, азёр, пляжы і г.д., з'яўляюцца грамадскімі месцамі падчас адпачынку грамадзян. Адміністрацыйная адказнасць наступіць у выпадку, калі распіванне спіртных напояў будзе адбывацца на вачах у грамадзян. Не варта забываць пра адказнасць за парушэнне нормаў экалагічнай бяспекі навакольнага асяроддзя і парадку прыродакарыстання, а таксама пажарнай бяспекі.

Часта сустракаюцца выпадкі, калі пасажыры разам з аўтамабілем з'язджаюць на абочыну і «сервіруюць» капот гарэлкай-селядцом. Падставай для прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці з'яўляецца аб'ектыўная прыкмета – «грамадскае месца», якім з'яўляецца абочына аўтадарогі, а грамадзяне, падарожныя міма на аўтатранспарце, будуць бачыць распіванне спіртных напояў.

**Адміністрацыйная адказнасць наступіць у выпадку, калі распіванне спіртных напояў будзе адбывацца на вачах у грамадзян.**

Пад з'яўленнем у грамадскіх месцах у п'яным выглядзе, які абражае чалавечую годнасць і маральнасць, неабходна разумець з'яўленне асобы, якая знаходзіцца ў стане алкагольнага ці іншага ап'янення, што відавочна парушае агульнапрызнаныя нормы паводзін грубымі выкрыкамі, стратай пачуцця сораму, непрыстойным выглядам (бруднае, мокрае, расшпіленае адзенне).

Хацелася б перасцерагчы нашых грамадзян: прадугледжаныя меры адказнасці за здзяйсненне правапарушэнняў, якія найболей часта фіксаваліся ў месцах масавага адпачынку грамадзян у апошнія гады: распіванне алкагольных, слабаалкагольных напояў ці піва ў грамадскім месцы або з'яўленне ў грамадскім месцы ў стане ап'янення (арт. 17.3 КоАП РБ) цягне накладанне штрафу ў памеры да 8 базавых велічынь, у выпадку паўторнага здзяйснення на працягу года – да пятнаццаці базавых велічынь ці адміністрацыйны арышт; распальванне вогнішчаў у забароненых месцах (арт. 15.58 КоАП РБ) – штраф у памеры да 12 базавых велічынь; забруджванне лесу і іншай драўнінна-хмызняковай расліннасці грамадзянамі (арт. 15.30 КоАП РБ) – штраф у памеры да 20 базавых велічынь.

У 2012 годзе на тэрыторыі вобласці ў вадзе загінула 128 чалавек, у тым ліку 7 чалавек у Глыбоцкім раёне.

Асноўнымі прычынамі гібелі людзей на водах з'яўляюцца:

- купанне ў вадаёмах, якія не прызначаны для гэтых мэтаў;
- купанне ў нецвярозым стане;

Бескантрольнасць з боку бацькоў прыводзіць да страты іх дзяцей. Трэба памятаць, што вада не прабачае бяспечнасць.

У пазбяганне няшчасных выпадкаў, страты блізкіх Вам людзей і дзяцей, паспрабуйце выконваць наступныя правілы і меры бяспекі на водах:

- **небяспечна купацца ў нецвярозым стане, у забароненых і неўсталяваных для гэтага месцах, выходзіць у плаванне на няспраўнай ці неабсталяванай выратавальнымі сродкамі лодцы, сядзець на яе бартах, пераcаджвацца з месца на месца ці з адной лодкі ў іншую падчас руху;**
- **купацца варта не раней, чым праз 1,5-2 гадзіны пасля прыёму ежы;**
- **не ўмелым плаваць нельга карыстацца лодкамі, надзіманымі сродкамі, іншымі прадметамі не абсталяванымі спецыяльнымі прыстасаваннямі для плавання;**
- **нельга купацца ў адзіночку, у цёмны час сутак, пры моцных хвалях;**
- **не скачыце ў ваду ў месцах з невядомай глыбінёй і рэльефам дна;**
- **не заплывайце далёка ад берага, разлічвайце свае сілы;**
- **не пакідайце дзяцей каля вадаёмаў без нагляду;**
- **не скачыце ў ваду з дамбаў, прыстаняў, катэраў, лодак;**
- **не падавайце ілжывыя сігналы бедства;**
- **не выкарыстоўвайце для плавання дошкі, бярвенне, надзіманыя матрацы, камеры аўтамашын і іншыя дапаможныя сродкі.**

Выкананне ўказаных правілаў выратуе Ваша жыццё і жыццё Вашых блізкіх.

## На поўдні Беларусі размножыліся ядавітыя тарантулы

**Пра гэта паведаміў навуковы супрацоўнік Навукова-практычнага цэнтра НАН Беларусі па біярэсурсах Міхаіл Максіменка.**

Паўднёварускіх тарантулаў у Беларусі выявілі яшчэ ў 2008 годзе. Паукі сталі актыўна рассяляцца па Беларусі, выкарыстоўваючы ўякасці экалагічных калідораў поймы рэк Прыпяць, Дняпро і Сож.

Паўднёварускі тарантул мае даўжыню тулава да 3,5 см. Удзень ён хаваецца ў вертыкальных норках, а ўначы выбіраецца на паляванне. Тарантулы аддаюць перавагу поплавам, жывуць каля вады і сілкуюцца насякомым.

Часцей за ўсё паукі кусаюць людзей, што наступілі на іх па неасцярожнасці. Укус павука-тарантула для большасці людзей не ўяўляе асаблівай пагрозы, але можа выклікаць вострую рэакцыю і прывесці да невялікага ацёку.

У сувязі з гэтым навукоўцы раяць быць пільнымі, адпачываючы на адкрытых, парослых травой берагах Прыпяці і Сожа. Небяспеку ўяўляюць жылыя норкі павука, зацягнутыя ля ўваходу белым павуціннем.

*БелТА*



**Паўднёварускі тарантул © фота з Вікіпедыі.**

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

## Вынік рыбалкі – штраф у суме 1 млн. 200 тысяч рублёў

Сканчаецца травень месяц, стаяць цёплыя дні, вакол усё ажыло. Прырода цалкам змянілася, заквітнела сотнямі фарбаў, паветра напоўнілася водарамі квітнеючых садоў, кветак, птушкі пабудавалі гнёзды і чакаюць нашчадкаў, можна падвесці папярэднія вынікі вясновага нерасту рыбы. За два вясновыя месяцы, красавік-травень, супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з работнікамі міліцыі затрымана больш за 40 грамадзян, якія парушалі прыродаахоўнае заканадаўства. Нягледзячы на вялікую колькасць затрыманых парушальнікаў, іх колькасць у параўнанні з 2012 годам значна скарацілася. Калі ў вясновы нераст рыбы 2012 года выяўлена 59 парушэнняў, з якіх 4 крымінальна-каральныя, то сёлета толькі 41 парушэнне і толькі 1 крымінальна-каральнае. Грамадзяне з кожным годам усё менш дапушчаюць парушэнняў і гэта не можа, не цешыць, усё менш становіцца абыякавых да прыроды людзей, а з'явілася больш добраахвотных памочнікаў.

Усё ж без парушальнікаў праца інспектараў не абыходзіцца, а гэта складанне пратаколаў і накладанне штрафу, як за незаконна здабытую рыбу, так і за выкід смецця, высечку дрэў і іншыя парушэнні.

Так, 16 красавіка 2013 года, каля 24 гадзін ночы інспектарамі сумесна з працаўнікамі міліцыі на возеры Кагальнае затрыманы жыхар г. Глыбокае грамадзянін Лапухоў Аляксандр Мікалаевіч, які ў начны час, у перыяд вясновага нерасту здабываў шчупака забароненым спосабам. Раённы суд ацаніў дзеянні Лапухова штрафам у памеры 1 200 000 рублёў і пакрыццё шкоды, прычыненую прыродзе ў памеры 350 тысяч. рублёў. У дзень затрымання, рана-раніцай супрацоўнікі інспекцыі папярэджвалі Лапухова, што лоўля шчупака забароненая, але ён адказаў, калі зловіце мяне, тады і пагаворым, але гутарка па-душах не атрымалася.

**Ён адказаў: «Калі зловіце мяне, тады і пагаворым!» Злавілі! Але гутарка па-душах не атрымалася...**

А вось жыхар г. Глыбокае Смірноў Дзмітрый, які працуе ў ААТ «Купцоў», у абедзенны перапынак добра паеўшы, вырашыў хуценька злавіць шчупака сабе і на вячэру, балазе ручай, што ўпадае ў возера Кагальнае, працякае побач. Схапіўшы шчупака рукамі ўцячы ад інспектараў не змог, мабыць было цяжка. Раённы суд дзеянне Смірнова ацаніў таксама ў 1 млн. 200 тысяч рублёў і пакрыццё шкоды ў памеры 350 тысяч рублёў. Вось такой дарогай атрымалася вячэра.

Жыхар в. Залессе Глыбоцкага раёна, Нікіцін Дзмітрый Мікалаевіч – асоба вядомая не толькі ў міліцыі, але ўжо ў міжраённай інспекцыі. 19 красавіка Дзмітрый Нікіцін пры дапамозе восціў спрабаваў здабыць рыбку на ручаіне, якая ўпадае ў возера Бярозаўскае, але так захапіўся рыбалкай, што ўбачыў інспектараў толькі, калі яны ўзялі яго пад «белыя ручкі» і павялі складаць адміністрацыйны пратакол. Вынік рыбалкі – штраф у суме 1 млн. 200 тысяч рублёў.

Гэта толькі маленькая частка прыкладаў парушэнняў, але вынік іх заўсёды адзін – пакаранне рублём, але часам можна страціць і свабоду.

Карыстаючыся выпадкам хацелася б звярнуцца да рыбаловаў-аматараў, якія наведваюць нашы вадаёмы. Грамадзяне, паглядзіце вакол сябе, што Вы робіце з берагамі азёр і рэк – пустыя бутэлькі з пад спіртнога, мінеральнай вады, слоікі, папера! І гэта ўсё робіце Вы, так званыя рыбакі. Інспектара да кожнага не прыставіш, але павінна быць асабістае сумленне, гонар за сябе, за нашу прыгожую зямлю. Не пакідайце пасля сябе, калі ласка, смецце і прымушайце гэта рабіць іншых, не будзьце абыякавымі.

Велізарны дзякуй грамадзянам, якія аказваюць дапамогу супрацоўнікам інспекцыі ў навядзенні парадку на вадаёмах і лясах раёна. Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведамляць па тэлефонах Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: «гарачая лінія» 8-02156- 28670 (кругласутачна), маб. тэл. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# 18 траўня Глыбокае адзначыла свята фізкультуры і спорту

■ Яўген Самсонаў

Масавы забег ад Цэнтральнай плошчы да гарадскога стадыёна – "Бягом за здароўем" – быў як бы размінкай святочнай імпрэзы. Першым сярод мужчын да фінішу прыбег Вадзім Ціўпель (ліцэй), сярод прыгожай паловы чалавецтва – Алёна Фёдарава (ліцэй).

Амаль усе лаўры першынства таксама дасталіся ліцэістам і падчас раённых спаборніцтваў па лёгкай атлетыцы на гарадскім стадыёне.

На дзіцячай пляцоўцы "Брыганціна" ахвотныя мелі магчымасць, як сапраўдныя вершнікі, пакатацца на конях.

Галоўная ўрачыстасць, пад дэвізам "Каб цела і душа былі маладыя!" праходзіла ў гарадскім Цэнтры культуры. Тут сабраўся касцяк спартыўнай эліты раёна. Падчас урачыстай вечарыны былі ўзгаданыя поспехі лепшых спартоўцаў раёна і іх настаўнікаў, якіх разпораз запрашалі на сцэну для ўручэння ганаровых узнагарод. Разам з лепшымі спартсменамі на сцэну запрашаліся і іх бацькі. Таксама былі падведзеныя вынікі круглагадзічнай раённай працоўнай спартакіяды 2012 года. Як і ў папярэднія гады, пераможцам стаў калектыў Дзяржпрафліцэя, услед за ім – спартоўцы УП ЖКГ Глыбоцкага раёна і ўпершыню трэцім прызёрам раённай працоўнай спартакіяды стаў калектыў ААТ "Глыбоцкі мясакамбінат". Узнагароды атрымалі і пераможцы агляду–конкурсу ў розных намінацыях.

Калектыў мастацкай самадзейнасці ГДК парадаваў прысутных прыгожым канцэртам.

Свята завяршылася дыскатэкай.



**На здымку:** лепшыя валейбалісты раёна з бацькамі, злева Вячаслаў Вячаслававіч, Наталля Васільеўна і Артур Сабыніч і Максім і Ірына Бенідзіктаўна Шымко.

# Больш за 150 казак пра сучасную Беларусь прыслалі школьнікі на конкурс ЮНЕСКА

**Больш за 150 казак пра сучасную Беларусь прыслалі школьнікі на конкурс ЮНЕСКА. Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ў Рэспубліканскім грамадскім аб'яднанні «Беларуская Асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА», якое выступае адным з арганізатараў конкурсу.**

Конкурс казак пра сучасную Беларусь - частка ўнікальнага беларускаамаанскага праекта, прысвечанага еўрапейска-арабскаму дыялогу паміж Захадам і Усходам у цэлым і Беларуссю і Султанатам Аман у прыватнасці. Конкурс дзіцячых казак праводзіўся з сакавіка па красавік і быў прымеркаваны да Міжнароднага дзесяцігоддзя збліжэння культур, якое прадоўжыцца да 2022 года.

Журы выбрала 13 лепшых казак. Плануецца перакласці іх на арабскую і англійскую мовы, падрыхтаваць ілюстрацыі і выпусціць у выглядзе зборніка.

Арганізатарам конкурсу акрамя Беларускай Асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА выступілі Нацыянальная камісія Беларусі па справах ЮНЕСКА, Міністэрства адукацыі.

*Кар. БЕЛТА*

# Як зберагчыся ад маланкі ў час навальніцы

**У час навальніцы нельга:**
- купацца або кантактаваць з вадой;
- дакранацца да металічных канструкцый;
- хутка ісці або перамяшчацца на адкрытым транспарце;
- лажыцца на зямлю;
- хавацца ў стозе сена;
- набліжацца бліжэй як на 30-50 м да высокіх аб'ектаў, што стаяць асобна.

**Фактары рызыкі з высокай ступенню небяспекі:**
- роўная адкрытая мясцовасць;
- лініі электраперадач;
- уключаны мабільны тэлефон (нават калі па ім не размаўляць);
- адкрыты парасон (з-за наяўнасці ў ім металічных спіц).

**Калі навальніца застала вас, то неабходна:**
- у населеным пункце – схавацца ў будынку, зачыніць усе навылётныя адтуліны, адключыць па магчымасці ўсе электрапрыборы;
- на адкрытым месцы - схавацца ў лагчыне без кустоў і дрэў;
- у лесе – стаць пад нізкае дрэва;
- пры знаходжанні ў вадзе - тэрмінова выйсці на бераг і пакінуць пляж;
- у дарозе – спыніць аўтамабіль, зачыніць вокны, уключыць падфарнікі і не дакранацца да металічных частак машыны.

**Гэта важна ведаць:**

Паводле статыстыкі, 54 працэнты маланак трапляюць у дубы, 24 працэнты – у таполі.

Маланка, якая трапіла ў ваду, можа паразіць купальшчыка на адлегласці некалькіх кіламетраў.

**Крыніца:** *Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь.*

# Апошнія званкі ў беларускіх школах адбудуцца 30-31 мая, выпускныя экзамены пройдуць з 1 па 12 чэрвеня

**Міністэрства адукацыі Беларусі рэкамендавала ў гэтым навучальным годзе правесці апошнія званкі для навучэнцаў 9-х і 11-х класаў 30-31 мая. Выпускныя экзамены будуць праводзіцца з 1 па 12 чэрвеня.**

Выпускнікі 9-х класаў будуць здаваць чатыры абавязковыя экзамены: «Беларуская мова» (пісьмова), «Руская мова» (пісьмова), «Матэматыка» (пісьмова), «Гісторыя Беларусі» (вусна).

Выпускнікі 11-х класаў таксама здаюць чатыры абавязковыя экзамены: «Беларуская мова» або «Руская мова» па выбары (пісьмова), «Матэматыка» (пісьмова), «Замежная мова» (вусна), яшчэ адзін экзамен здаецца па выбары.

Выпускны экзамен па выбары можа здавацца па адным з наступных прадметаў: «Беларуская мова» (пераказ), «Руская мова» (пераказ), «Беларуская літаратура» (вусна), «Руская літаратура» (вусна), «Гісторыя Беларусі» (вусна або абарона рэферата), «Сусветная гісторыя» (вусна або абарона рэферата), «Геаграфія» (вусна), «Біялогія» (вусна), «Хімія» (вусна), «Фізіка» (вусна), «Астраномія» (вусна), «Інфарматыка» (вусна), «Грамадазнаўства» (вусна), «Фізічная культура і здароўе» (у практычнай форме). У якасці выпускнога экзамена па выбары вучні, якія асвойваюць змест адукацыйнай праграмы прафесійнай падрыхтоўкі рабочых (служачых), могуць выбраць кваліфікацыйны экзамен.

Выпускныя вечары для вучняў 11-х класаў міністэрства рэкамендавала правесці 10-12 чэрвеня. Цэнтралізаванае тэставанне па вучэбных прадметах пачнецца 14 чэрвеня.

***Анастасія Саклановіч, БелаПАН.***

# Першую ў Беларусі гарадскую канатную дарогу пабудуюць у Віцебску



Абвешчаны тэндар на распрацоўку праектнакаштарыснай дакументацыі для будаўніцтва ў Віцебску канатнай дарогі. Эксплуатаваць першую ў Беларусі падвясную дарогу будзе сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Аэравіт».

Будаўніцтва транспартнага аб'екта павінна пачацца ў IV квартале 2013 года і скончыцца праз 12 месяцаў. Трасы «паветранага моста» працягнуцца паміж гасцініцай «Віцебск» і высотным жылым домам па вуліцы Белабародава, 1 корпус 1 - на дахах гэтых будынкаў усталююць пасадкавыя станцыі.

Ініцыятарам праекта і сузаснавальнікам «Аэравіта» выступіў фундатар са Славакіі Пётр Агароднікаў.

# Ад удару маланкі ў Расонах згарэў цэх: знішчана 40 тон брыкету

**Выпадак здарыўся 19 мая, у нядзелю. Гарэў цэх па вытворчасці паліўных брыкетаў прыватнага гандлёвага вытворчага ўнітарнага прадпрыемства.**



Будынак аднапавярховы, памерам 26х32 метры, з драўлянымі сценамі і шыферным дахам.

У выніку пажару знішчана 40 тон паліўных брыкетаў і дах будынка, пашкоджаныя сцены. Пацярпелых няма. Як мяркуецца, прычына пажару - удар маланкі.

# У першы дзень лета побач з Зямлёй пранясецца гіганцкі астэроід

**У ноч на 1 чэрвеня астэроід памерам 2,7 км праляціць побач з Зямлёй, паведамляюць інфармагенцтвы.**

Астэроіду, які быў адкрыты яшчэ ў 1998 годзе, прысвоілі назву 1998 QE2. Ён будзе праляцаць на адлегласці 5,8 млн.км ад паверхні нашай планеты. За апошнія 200 гадоў гэта самае цеснае збліжэнне астэроіда з Зямлёй.

Вучоныя падрыхтаваліся ўжо да візіту касмічнага госця: яны маюць намер правесці радарнае зандзіраванне астэроіда і атрымаць даныя аб яго саставе, форме і арбіце. Атрыманыя даныя дапамогуць экспертам вызначыць паходжанне астэроіда і прадставіць магчымасць меркаваць аб будучым магчымым перамяшчэнні гэтага гіганцкага касмічнага цела.

***БЕЛТА.***

І.У. Федаровіч,
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

# Безнагляднасць дзяцей – асноўная прычына няшчасных выпадкаў!

**ДАІ інфармуе:** Напярэдадні канца навучальнага года і наступленнем летніх канікул, на тэрыторыі нашай Рэспублікі праводзіцца спецыяльнае комплекснае мерапрыемства, накіраванае на папярэджанне дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму пад назвай: «Увага - дзеці!»

За бягучы перыяд 2013 года на тэрыторыі Віцебскай вобласці адбылося 9 дарожных аварый з удзелам дзяцей, у выніку якіх 9 чалавек атрымалі цялесныя пашкоджанні і былі шпіталяваныя ў медустановы.

Таму, у мэтах прафілактыкі дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму, а таксама ў сувязі з канчаткам навучальнага года і пачаткам летніх канікул праводзіцца гэтыя мерапрыемствы. Ва ўстановах адукацыі будуць арганізаваны выступленні супрацоўнікаў ДАІ, гутаркі, лекцыі, у гэтыя дні будуць арганізаваныя рэйды супрацоўнікаў ДАІ сумесна з працаўнікамі аддзела адукацыі і сродкаў масавай інфармацыі па папярэджанні парушэнняў Правіл дарожнага руху дзецьмі, а таксама вадзіцелямі транспартных сродкаў паблізу месцаў размяшчэння школ і дашкольных устаноў.

Паважаныя дарослыя! Клопат пра дзяцей – наша агульная справа. Безнагляднасць дзяцей, гульні і свавольствы на дарогах, раптоўнае з'яўленне паблізу транспарта, абыякавае стаўленне да гэтага дарослых – вось асноўныя прычыны няшчасных выпадкаў з дзецьмі на дарогах. Мы звяртаемся да Вас з просьбай: убачыўшы дзяцей, якія гуляюць на праезнай частцы дарогі ці каля яе, не заставайцеся абыякавымі, зрабіце дзецям заўвагу, паспрабуйце прыняць меры, каб ізаляваць іх ад патоку транспарта.

Прывучайце сваіх дзяцей да дарожнай дысцыпліны, выхоўвайце ў іх пачуццё асцярожнасці пры пераходзе праезнай часткі, штодня нагадвайце ім пра выкананне правіл дарожнага руху, самі служыце прыкладам сваім дзецям!

Паважаныя бацькі! На вуліцы будзьце асабліва асцярожныя з малодшымі дашкольнікамі. Не пакідайце іх без нагляду. Памятайце, што нават адзін нясцелушны крок дзіцяці на праезную частку дарогі, дзе магчыма рух транспарта, можа прывесці да няшчасця.

Паважаныя вадзіцелі! Вы абавязаны быць вельмі асцярожнымі і ўважлівымі пры праездзе каля дзіцячых пляцовак, прыпынкаў грамадскага транспарту, дзіцячых садоў і школ, пры праездзе пешаходных пераходаў. У адпаведнасці з пунктам 166 і 166.9 Правіл дарожнага руху ў перыяд правядзення Міністэрствам унутраных спраў рэспубліканскіх спецыяльных комплексных мерапрыемстваў «У светлы час сутак для пазначэння рухальнага транспартнага сродку павінна быць уключанае блізкае святло фар» **з 24 траўня па 8 чэрвеня ўсе вадзіцелі транспартных сродкаў абавязаныя перасоўвацца з уключаным блізкім святлом фар у светлы час сутак.**

31 траўня 2013 года на тэрыторыі раёна будзе праведзены Адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам «Увага – дзеці!».

**Па стане на 15 мая ў Беларусі зарэгістравана 12 выпадкаў атручэння грыбамі, у якіх пацярпелі 13 чалавек. Дзевяць выпадкаў адбыліся ў Мінску, яшчэ тры — у Брэсцкай вобласці, паведамляе Рэспубліканскі цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя (РЦГЭіГЗ).**

# Сёлета зарэгістравана 12 выпадкаў атручэння грыбамі

Усе пацярпелыя ўжывалі ў ежу кансерваваныя і сушаныя грыбы, а таксама смаржкі і страчкі, якія вельмі падобныя і з'яўляюцца вясной ў адзін і той жа час.

Спецыялісты РЦГЭіГЗ адзначаюць, што **цяпер страчкі адносяцца не да ўмоўна атрутных грыбоў, як лічылася раней, а да атрутных.** Смаржкі ж можна ўжываць толькі пасля папярэдняй апрацоўкі. Абодва віды грыбоў утрымліваюць небяспечны яд - гельвелавую кіслату. Акрамя таго, у страчках утрымліваецца яшчэ і моцны яд гіраміртын, які не разбураецца і не пераходзіць у адвар нават пры працяглым кіпячэнні.

Каб пазбегнуць атручэння грыбамі, неабходна выконваць наступныя элементарныя правілы прафілактыкі: збіраць толькі добра знаёмыя грыбы; не збіраць і не купляць на рынку пераросліya, адрузлыя, пашкоджаныя лічынкамі і цвіллю грыбы; не каштаваць падазроныя грыбы на смак; не збіраць грыбы ўздоўж дарог; не захоўваць свежыя грыбы перад прыгатаваннем, бо гэта скорапсавальны прадукт; нарыхтоўваць на запас толькі маладыя грыбы; саліць, сушыць і марынаваць кожны від асобна; перад гатаваннем старанна мыць грыбы ад пяску і глебы; ваду пасля гатавання абавязкова зліваць; не купляць на рынку грыбныя кансервы, герметычна закрытыя накрыўкамі ў хатніх умовах, а таксама сухія грыбы, грыбную ікру і салаты з грыбамі.

***Анастасія Саланові ч, БелаПАН***

# Дзеці сваволяць з агнём

Шматлікія забароны дарослых на запалкі, на курэнне, на развядзенне вогнішчаў толькі распальваюць цікавасць малалетніх дзяцей да забароненага. Часцей за ўсё менавіта жаданне супярэчыць бацькам, хоць на імгненне наблізіцца да свету дарослых, падахвочвае дзяцей узяць у рукі запалкі. А тут і шматлікія пагрозы і марялі адыгрываюць сваю ролю. Дзіця з запалкамі ідзе хавацца ў зацішнае месца, каб, крый Божа, дарослыя не ўбачылі. Часцей за ўсё такімі зацішнымі месцамі з'яўляюцца хлявы, сенавалы, гарышчы. Імгненне, і запаленая запалка ляціць у апілкі, якія-небудзь старыя анучы ці сена. Слабыя язычкі полымя ператвараюцца ў равучую стыхію, і, спалоханае гневам бацькоў, дзіця, нічога ім не кажучы, бяжыць гуляць на вуліцу, добра калі не хаваецца на тым жа гарышчы ці сенавале.



Вось прыкладная карціна ўзнікнення пажару, прычынай якога з'яўляецца дзіцячае свавольства. На жаль, і ў наш час большасць пажараў адбываецца з-за неасцярожнага абыходжання з агнём. Бацькі, паспрабуйце не пакідаць сваіх дзяцей без нагляду. Гэта адзіны спосаб прадухіліць бяду.

***А. Андрыеўскі, інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС***



# За тры месяцы 2013 года беларусы ездзілі ў Польшчу 1,5 млн разоў

**Пра гэта Еўрарадыё паведамілі ў прэс-службе памежнага кантролю Польшчы.**

Дакладная колькасць паездак за снежань-сакавік - 1 533 915. Нагадаем, што беларусы займаюць першае месца ў свеце па колькасці атрыманых шэнгенскіх віз.

У 2012 годзе грамадзяне нашай краіны атрымалі 693 тысячы шэнгенскіх віз. Гэта на 113 тысяч больш, чым у 2011.

***Алесь Пілецкі, Еўрарадыё.***

# Жыллё, якое застанецца непрыватызаваным за год, пяройдзе ў разрад камерцыйнага

**У Беларусі распрацаваны праект указа, які прадугледжвае перавод жылых памяшканняў, дадзеных грамадзянам на падставе дагавораў найму, а таксама службовага і спецыяльнага жылля ў разрад камерцыйнага. Пра гэта паведаміў міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Андрэй Шорац, адказваючы 17 мая на пытанні дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў.**

Паводле яго слоў, праект указа знаходзіцца «на стадыі накіравання кіраўніку дзяржавы».

Як адзначыў міністр, такога жылля ў Беларусі 392 тысячы кватэр, ці 14% ад агульнай колькасці. «Гэта жыллё грамадзяне маюць права прыватызаваць, і на сённяя яшчэ 182 тысячы грамадзян маюць на руках чэкі „Жыллё“, якія могуць накіраваць на прыватызацыю», - сказаў Шорац.

Паводле яго слоў, праект указа прадугледжвае, што на працягу года пасля прыняцця дакумента грамадзяне будуць мець права прыватызаваць жыллё. Калі яны адмовяцца ад прыватызацыі ці з-за нейкіх прычын не змогуць яе ажыццявіць, жыллё будзе пераведзена ў разрад арэнднага жылля камерцыйнага карыстання.

Калі грамадзяне будуць не гатовыя плаціць за карыстанне ім, то яно будзе пераведзена ў жыллё сацыяльнага карыстання.

7 мая на цырымоніі пачатку будаўніцтва жылога комплексу для навуковай і творчай інтэлігенцыі «Магістр» у Мінску Аляксандр Лукашэнка заявіў, што кошт найму арэнднага жылля павінен быць не ніжэйшым за 50% ад рынкавага.

«Гэта прынцыпова для ўсіх. Арэнднае жыллё не можа быць таннейшым за 50% рынкавага кошту, але і даражэйшым мы не будзем рабіць», - сказаў ён. Разам з тым Лукашэнка падкрэсліў, што для пэўных катэгорый грамадзян будзе працягнута будаўніцтва сацыяльнага жылля: «Гэта, напэўна, ваенныя людзі і, самае галоўнае, шматдзетныя сем'і. Мы ім будзем сур'ёзна дапамагаць, таму што гэта наш галоўны прыярытэт. У астатнім будзем дзесьці трохі дапамагаць, але мы пераходзім да арэнднага жылля, як жыве ўвесь свет».

***Сяргей Каралевіч, БелаПАН***

